спалохалася спагадніца іх і падлядела у гору.

Зарагатала Злая зводніца і плюнула у самыя вочы Добрай Волі.

20/VII—1918. **А. Галіна.**



## Край няволі.

Часам ноч бывае — воч ні закрываю,
Ні прыходзіць сон;
Бачу край далёкі,—сумны, адзінокі
Мне здаецца ён.

Бачу горы—скалы, ад людзей завалы,
Што душу гнялі;
Бачу тыя воды, па якім праз годы
Мае сны плылі.

Чуецца тайга мне, як на дзікім камню
Ад вякоў гудзе.
Песьні больш тужлівай, скаргі больш (праўдзівай
Я ні чуў нідзе.

Дзён там шмат пражыто, цьма надзей (разьбіта
У безконцы зім.
Сколькі лятуценняў, думак і натхненняў
Пахавано ў ім!

Помню край далёкі... Сумны, адзінокі...
Ні магу забыць!
Дораг сумны гэны край, дзе горы-сьцены,
Край, дзе шчасьце—сьніць.

**Алесь Гарун.**

**Вінцук Марцінкевіч.**
*Наум Прыгаворка.*

# Пінская шляхта.

*Фарс-водэвіль у 1 дзеі.*

(Глядзі № 30).

ЗЬЯВА IX-ая.

**Тыя самыя** і **Ціхон Пратасавіцкі**, яго жонка, **Цюхай-Ліпскі**, яго сын **Грышка**, **Цімох Альпенскі**, **Базыль Статкевіч** і інш. шляхта.

Ціхон. Жонка, а, жонка! Будзе бяда! Паглядзі, як у найясьнейшай кароны вус адзін у ніз, а другі у гору задраўся? Ідзі ты наперад ды пакланіся яму, хрэн яму у вочы.

Куліна. Што ты мяне пасылаеш! Ты сам наварыў піва, сам і папівай здароў,—я баюся.

Ціхон. Ты—кабета, хрэн табе у вочы,— ён-жа цябе ні зьесьць! Азьмі гэтыя грошы,—тут іх пяць дзесятак,—пакланіся у ногі ды палажы на стол; ён-жа юрыста, ні адчураецца грошай,—тагды і дзело пойдзе, як па салу.

Куліна. Ну, што рабіць,—папытаю. (яна боязна падыходзіць, кладзе грошы на стол, посьля кланяецца станавому нізка). Найясьнейшая карона...

Кручкоў. Тише! (Куліна са страху адыходзіцца ад стала ды хаваецца за мужа; Кручкоў, трымаючы паперу, устае ды, ні пазіраючы на шляхту, гаворыць): По указу Пинскаго земскаго суда отъ 23-го мая сего года за № 2312 прибылъ я въ околицу для разслѣдованія уголовнаго дѣла о побояхъ, панесенныхъ Тихономъ Протосавитскимъ Ивану Тюхаю-Липскому... Ліпскі, маеш сьведкаў?

Ліпскі. Маю, найясьнейшая карона.

Кручкоў. Пусть выступятъ впередъ! (Трое шляхтаў выходзяць наперад). Пратасавіцкі, за што ты яго біў?

Ціхон. Дык ён-жа назваў мяне мужыком,—хрэн яму у вочы.

Кручкоў. Маеш сьведкаў?

Ціхон. Маю Куторгу.

Кручкоў. Яго ні можна ставіць, — ён пад судом. (Абярнуўшыся да сьведкаў Ліпскаго). Вы бачылі, як Пратасавіцкі біў Ліпскаго?

3-ы сьведкі. (боязна кланяючыся). Бачылі, найясьнейшая карона!

Кручкоў. (Абярнуўшыся да іншай шляхты): А вы бачылі?

Усе іншыя. Не, ні бачылі, найясьнейшая карона!

Кручкоў. Ну, дык добра! Сьледство кончано, цяпер будзе суд, а наўперад: по указу всемилостивѣйшей государыни Елисаветы Петровны 49-го апрѣля 1893-го года и всемилостивѣйшей Екатерины Великой отъ 23-го сентября 1903-го года, а равномѣрно въ смыслѣ Статута Литовскаго раздѣла 8-го, параграфа 193-го, коимъ назначается въ пользу суда отъ тяжущихся гривны. Обжалованный Протосавитскій имѣетъ заразъ-же уплатить пошлинъ 20, прогонныхъ 16 и на канцелярію 10 рублевъ. Жалующійся Липскій въ половинѣ того, сьведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі,—по 9-і рублевъ а вся прочая шляхта, што ні бачыла дракі, за тое, што не бачыла,—по 3-ры рубли. Плаціце! (Садзіцца на мейсцы ды піша; шляхта шэпчацца паміж сабою, посьля выбраны усімі зборшчык Ціхон Альпінскі падыходзіць да Пратасавіцкага, Ліпскаго, і іншае шляхты, зьбірае грошы і, зложыўшы грошы у адзін мяшок, падносіць, баючыся, да станавога ды кладзе на стол).

Ціхон. (Адлічыўшы зборшчыку грошы, калі той пашоў зьбіраць ад другіх). Э... глядзі ты! Як ён на бяду нашу усе указы і законы, як рэпу, грызе і ні заікнецца,—хрэн яму у вочы!

Куліна. Чаго тут дзівіцца? Відаць, судовы чалавек, дык ён на том і зубы згрыз,—такая, бач, парода.

Кручкоў. (Як Альпінскі палажыў на стол грошы). А усе?

Альпінскі. Да капеечкі, найясьнейшая карона!

Кручкоў. Ладна, ідзі! Зараз будзе дэкрэт.

Ціхон. Ух, Госпадзі! Што гэта будзе,—хрэн яму увочы?!

Куліна. А што будзе? Вядома, юрыста, — абдзярэ усіх да-чыста ды й паедзе з Богам да хаты.

Ціхон. Хрэн табе у вочы,—каб прынаймні шкура была цэла, а то як дабярэцца да яе, будзе нічысты інтэрас!

Кручкоў. (Устае і выходзіць с паперай на сярэдзіну сцэны). Слухайце с увагаю!.. (усе кланяюцца). Буду чытаць дэкрэт (зноў кланяюцца). По указу его императорскаго величества, во временномъ присутствіи, въ комплектѣ, составленномъ изъ участковаго засѣдателя и его писмоводителя, слушали дѣло, коего обстоятельства слѣдующія: Иванъ Тюхай-Липскій назвалъ Тихона Протосавицкаго мужикомъ; тотъ за такую обиду побилъ Липскаго, на что сей послѣдній представилъ и свидѣтелей. Разслѣдовавъ таковое дѣло, временное присутствіе, сообразно указу всемилостивѣйшаго государя Петра Великаго въ 1688 г. марта 69-го дня послѣдовавшаго и примѣняясь къ Статуту Литовскому раздѣла 5-го параграфа 18-го,—опредѣлило: Тихону Протосавицкому, как уголовному преступнику, назначается 1-е) 25 лозъ на голой землѣ безъ дывана *) и 2-е) штрафа 25 руб. въ пользу временнаго присутствія. б) Ивану Тюхаю-Липскому, какъ нанесшему личное оскорбленіе Протосавитскому, назначается 1-е) 15 лозъ на дыванѣ и 2-е) 15 руб. штрафа въ пользу временнаго присутствія; в) свидѣтелямъ, каторые видѣли драку и не разняли дерущихся, 1-е) по 10 лозъ на дыванѣ и по 10 руб. штрафа въ поль-

*) Без дывана—без посьцілкі. У даўнейшыя часы, калі каралі шляхціца розгамі, палажыўшы яго на голай зямлі, без дывана, дык гэта лічылося для яго вялікай абразаю.

Яго любоў — мая сіла.
Без яго мне сьмерць—спасенне,
Без яго мне сьвет—магіла.
Ніхай бацьке лаюць, мучаць,
Ні с кім другім ні зручуся.
Калі з ім мяне разлучаць,
Я ў Прыпяці утаплюся.

Кручкоў. Ну, калі так крэпка яго мілуеш, дык ужо німа чаго раздумваць. Панове бацькі! Трэба іх злучыць, а то новае угалоўнае дзело зваліцца на вашы галавы. Пане Лінскі, чы прымаеш вашэ мяне за свата для свайго сына?

Лінскі. Ды ужо-ж, найясьнейшая карона! Задумалі дзело, то і канчайце яго з Богам,—я рад буду блогаславіць.

Кручкоў. Дайце сюды ручнік! (Падаюць, а ен закідае яго сабе на плячо). Ну, вот я і сват! Што, панове Пратасавіцкія,—аддаеце вашу дачку за Грышку?

Ціхон. Такога свата трудна ні уважыць. Хадзі, жонка, хадзі пане Лінскі,—хрэн табе у вочы! Паблогасловім дзяцей, а там потым адгуляем вяселле. На пасаг дам два гарцы грошай і шляхецкую худобу, а па сьмерці-ж нашай — самі усе забяруць.

Куліна. Ды і на выправу ні пашкадуем,—яна-ж у нас адыначка: што маем, тое усе яе, каб толькі Бог даў ім шчасную долю. (Бацькі сходзяцца і злучаюць маладым рукі).

Кручкоў. Вот так добра! Цяпер, панове бацькі, падпішыце міравую і злажыце міравых пошлін па тры капейкі. (Тыя падпісываюцца трымя крыжыкамі, Пісулькин за іх распісуецца).

Альпенскі. (у бок). Ні быу-бы судовы чалавек! Пабраў рублі ды яшчэ па капейкі сягае. У іх ужо такая натура: без капеяк і чвэрціну, як без солі у страву, ніяк ні абойдуцца; капейкі і чвэрці — да скарбу, а рублі — сабе.

Кручкоў. Дзісяцкі! (той уваходзіць). Прывядзі сюды Куторгу! (дзісяцкі выходзіць). Ну, што-ж,—налівайце зноў кубкі ды вып'ем за здароўе маладой пары.

Усе. (Падымаючы у гору кубкі). Будзьце здаровы, маладыя! Дай Бог вам век с сабою шчасьліва пражываць!

### ЗЬЯВА АПОШНЯЯ.

**Тыя самыя, і Куторга.**

Куторга. (Кланяецца усім). Дзякуй, дзякуй, панове грамада! Буду старацца ушчасьлівіць Марысю.

Кручкоў. Маўчы, стары хрэн, ні аб табе тут ідзе дзело! Бяры кубак ды выпі за здароўе маладых Грышкі Лінскаго з Марысею і падзякуй Богу, што так лёгка вырабіўся ад суда.

Куторга. Дык гэта ні я малады? Ні за маё віл і здароўе.

Кручкоў. Пакінь, стары хрыч, думаць аб жаніцьбе, а замотай сабе на вус, каб крэпка дзяржаць язык за зубамі.

Куторга. Ой, найясьнейшая карона! Буду сабе часта браць на розум філозофскую прыпавесьць: на тое Бог даў людзям язык, каб умець маўчаць. (пье с кубка).

Кручкоў. Дзісяцкі! (той уваходзіць). Коні гатовы?

Дзісяцкі. Запрагаюць, найясьнейшая карона! (выходзіць).

Кручкоў. Ну, панове шляхта-брацця! Я вам родны, я вам брат, дык на прашчанне вып'ем яшчэ па кубку крупніку, засьпяваем нашу родную песьню ды паскачэм на заручынах. Пане Куторга, у цябе яшчэ ні вельмі курыцца чупрына,—ты вядзі пункты, а мы пакруцімся, прыпяваючы.

Усе. Віват наш брат, найясьнейшая карона!

№ 8.

Хор. Эй, чух чумадра, біс.
Чумадрыха весяла!

Куторга. Нашы Пінскі ваколіцы—
Жыше хоць цару, царыцы!
Усяго досыць — прызірніся:
Еш, пі, хоць распіражыся.

Хор. Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

Куторга. Есьць гарэлка, луста хлеба,
Уюны й сушона рыба.
Чаго-ж болей людзям трэба?
Пінчуку тут даў Бог небо!

Хор. Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

Куторга. Як зьбяром дабро дачыста,
Завязом на торг да места,
Тагды квартаю чырвонцы,
Гарцам мерым карбавонцы.

Хор. Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

Куторга. Дзяўчаты нашы, як лані,
Харашэйшы, як ясны пані.
Зірьне katора — маспане!—
Сэрцо с-пад жыбра дастане.

Хор. Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

(Чуваць звонікі. Шляхта апьянелая хістаецца па сцэні без парадку; гутарка агульная без сэнсу; Куторга па сярэдзіне сцэны раняе кубак і засыпае; Кручкоў бярэ у бок Альпенскаго і кажа яму):

Кручкоў. Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?

Альпенскі. А што?

Кручкоў. Ен казаў, што ты ні шляхціц.

Альпенскі. Што? Ен мяне так зьневажае? Вось я-ж яму пакажу мае шляхецтво!

Кручкоў. Ні пры мне,—як паеду, тагды з ім расправішся! (Альходзіцца, бярэ у бок Статкевіча). Знаеш? Цябе Альпенскі аблаеў мужыком.

Статкевіч. Ен сьмеў назваць мяне мужыком?! Мне сам Юры Кабылінскі падпісаў грамату, — дык я-ж на шкуры яго выпішу сваё шляхецтво! (шугаецца да Альпенскаго і пачынаюць біцца).

Лінскі. Найясьнейшая карона! Шляхта папілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належыць!

Кручкоў. Ні ка мне, ні ка мне,—віхай у суд падаюць, тагды прыеду на сьледзтво! Бывайце здаровы! (выходзяць с Пісулькіным).

Ціхон. Віват, найясьнейшая карона!!

Усе. (апрач тых, што б'юцца). Віват, найясьнейшая карона!!

(Заслона апускаецца, пакідаючы на перадзі сцэны Куторгу; той прачынаецца).

Куторга. Што? Ужо разышліся? А там чутна і бойка! Добра прыпавесьць кажэ: пінска шляхта як нап'ецца, то напэўна пазьзярэцца (да публікі). Да вы ужо, найясьнейшыя панове, спаць хочаце? А што? Ні праўда! Дык:

№ 9.

Найясьнейшая публіка!
Прашу цябе ні дзівіся,
Бяда гэта нівяліка,
Што мы крыху напіліся.
Ніхай шчасная развязка
Пінскай шляхці ад вас будзе,—
Дайце браво, калі ласка,
Ды і з Богам, добры людзі!

(Канец).

Выправіў **Я. Л-к.**

